Прачытай сам і перадай другому.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою.*
***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**№ 91 (4549)**

17 лістапада 2020 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ



# Акаянныя дні Беларусі

Так звычайна дзейнічаюць прафесійныя зладзеі. Ідуць на злачынства тады, калі ведаюць, што гаспадароў няма дома.

Менавіта па такім сцэнарыі ў мінулую пятніцу адбыўся бандыцкі напад на офіс рэдакцыі газеты "Народная Воля". Ні мяне, галоўнага рэдактара і ўласніка памяшкання, ні майго намесніка на месцы не было. Верагодна, "няпрошаныя госці" ведалі: у гэты час я не мог пакінуць дома хворую на каранавірус дачку-ліцэістку, а жонка, якую напаткала такая ж зараза, злегла ў бальніцу. З-за дрэннага адчування дзіцяці не змагла своечасова прыехаць на работу і Марына Коктыш, якая сёння з'яўляецца адзіным маім намеснікам.

Ды што зладзеям да бяды людзей! Як і да таго, што газета "Народная Воля" выходзіць на законных падставах вось ужо дваццаць шосты год. Смеху варта тое, што ў друкарні выдавецтва "Беларускі дом друку" чацвёрты месяц "не могуць" адрамантаваць нейкі станок, з-за чаго нам давялося тыражаваць "Народную Волю" аж пад Масквой.

Некалькі супрацоўнікаў рэдакцыі, што знаходзіліся на рабочых месцах, спрабавалі спыніць асоб, якія не прад'явілі ніякіх дакументаў аб тым, хто яны такія і хто ім даў дазвол фактычна на выкраданне газеты, але ніхто з рабаўнікоў іх і слухаць не хацеў. Атрымаўшы падмацаванне з боку здаравенных амапаўцаў, яны ў лічаныя хвіліны закінулі ў машыну амаль увесь тыраж свежага нумара "Народнай Волі" і гэтак жа імгненна, як і з'явіліся, зніклі ў невядомым накірунку. Ка-ра-вул! Рабаванне сярод белага дня!

На жаль, з-за цяжкіх сямейных абставін я ў пятніцу так і не змог дабрацца на Энгельса, 34А. А калі бліжэй да абедзеннага часу ў рэдакцыі з'явілася Марына Коктыш, то ёй засталося толькі тэрмінова рыхтаваць паперу на імя начальніка ўпраўлення Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь па г.Мінску з патрабаваннем аператыўна правесці расследаванне ў адпаведнасці з усімі заканадаўчымі нормамі, прыцягнуць да адказнасці вінаватых у выкраданні тыражу газеты і тэрмінова вярнуць яго рэдакцыі.

Людцы! Што ж творыцца ў краіне? "Народная Воля" – сапраўды народная газета. Не, гэта не перабольшванне. Пасля таго як беларускія ўлады нахабна пазбавілі яе не толькі друкарні (не ў "зламаным станку" праблема), але і магчымасці распаўсюджвацца праз шапікі і паштовыя аддзяленні і такім чынам абрынулі фінансавае становішча рэдакцыі, чытачы, шматлікія прыхільнікі свабоднага слова, лічы, узялі ўсе расходы на сябе. Ды, адчуваецца, не па нутру прыйшлося гэта тым, каму чэсная, незалежная прэса – кол у горле. Як жа: дзяржаўныя газеты ні гу-гу пра злачынствы, якія адбыліся падчас галасавання (ды і напярэдадні) на прэзідэнцкіх выбарах, а "Народная Воля" рубам ставіць пытанне: вінаватыя павінны панесці адказнасць, і як мага хутчэй трэба правесці новыя, па-сапраўднаму дэмакратычныя выбары. З-за бязмежнага насілля над мірнымі пратэстоўцамі сілавікоў загінуў ужо не адзін чалавек, а колькі пакалечана, змарнавана – пра такое ўлады нават гаварыць не хочуць, хоць "Народная Воля" нагадвае ім пра гэта ў кожным нумары.

У чым віна газеты, тыраж мінулага нумара якой падвергся рабаванню сярод белага дня? У тым, што яна адстойвае справядлівасць? Бароніць гонар чэсных людзей? Не, "Народная Воля" не бярэ на сябе ролю суддзі. Магчыма, ёсць пралікі і з боку рэдакцыі, яе аўтараў. У такім выпадку давайце гэта адкрыта абмяркоўваць, знаходзіць паразуменне. Калі ў некага ёсць прэтэнзіі да таго ці іншага матэрыялу – калі ласка, старонкі "Народнай Волі" даступны для ўсіх. Аб гэтым я мноства разоў казаў з самых высокіх трыбун. Гадоў, можа, дзесяць таму нават напісаў спецыяльны ліст А.Лукашэнку: любую сваю пазіцыю вертыкальшчыкі могуць даносіць да шырокіх мас праз "Народную Волю". Адказу не было.

Ужо пасля выбараў мяне запрасіў на гутарку новы міністр інфармацыі Ігар Луцкі. Намёк яго я, здаецца, зразумеў: газета хоць і з'яўляецца недзяржаўнай, але прытрымлівацца яна павінна палітыкі "Чырвонага дома". А калі гэта палітыка не падзяляецца многімі грамадзянамі краіны? Што, заткнуць ім рот? Не, "Народная Воля" нікому і ніколі не затыкала рот і не збіраецца рабіць гэта цяпер. Не замоўчвала негатыўную інфармацыю дзеля прыслужніцтва каму-небудзь – не замоўчвае і цяпер. Ну як можна рабіць выгляд, што ў краіне не льецца кроў, не гінуць людзі?

Пакручасты лёс Беларусі. Пакручасты ён і ў "Народнай Волі". Не па добрай волі давялося шмат гадоў друкаваць газету ў Вільнюсе, затым – у Смаленску і вось тры месяцы – пад Масквой. Але і побач з Белакаменнай, скажу вам, шаноўныя чытачы, мы не знайшлі прыстанішча. Ёсць інфармацыя, што дзве дыктатуры – беларуская і расійская – уступілі ў змову, каб не даць нам магчымасці тыражаваць папяровы варыянт "Народнай Волі". На мінулым тыдні "Роспотребнадзор" як быццам часова спыніў дзейнасць друкарні АТ "Прайм Принт Москва". А значыць, дамова з нашай рэдакцыяй анулявана.

Па згодзе беларускага і расійскага рэжымаў "Народная Воля" некалі таксама ў лёсавызначальны для нашай краіны час была выштурхнута са Смаленскай друкарні федэральнага падпарадкавання. Выжылі! Выжывем і цяпер! Перыядычнасць выхаду газеты застаецца ранейшай – аўторак і пятніца. Фармат, аб'ём і стыль вёрсткі не мяняюцца. Толькі пэўны перыяд "Народная Воля" будзе з'яўляцца не ў папяровым варыянце, а толькі ў электронным на нашым сайце **nv-online.info**.

Разумеем, гэта чарговыя нязручнасці для некаторай катэгорыі чытачоў, у першую чаргу тых, хто не валодае камп'ютарам. Што ж, даражэнькія, трэба перажыць гэтыя акаянныя дні. Над Беларуссю апусцілася цёмная ноч, але будзем аптымістамі: вось-вось надыдзе світанне.

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,**
**заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар газеты "Народная Воля".**

ТРАГЕДИЯ БЕЛАРУСИ




## Роман БОНДАРЕНКО:

# «Я выхожу!»

Эти слова теперь произносит весь цивилизованный мир. «Я выхожу!» – сообщение, отправленное вечером 11 ноября 31-летним Романом Бондаренко сразу же после того, как он узнал, что во двор их дома приехали люди в масках и начали срезать БЧБ-ленты и закрашивать мурал на трансформаторной будке. Местные жители возмутились действиями незваных гостей.

Домой Роман не вернулся. Его, избитого, «небезразличные граждане» скрутили, закинули в машину и увезли в неизвестном направлении. В больницу парня доставили той же ночью с тяжелой травмой головы, в четверг 12 ноября он умер.

В минувшее воскресенье широкая общественность отдавала дань памяти патриоту. О том, в каком противостоянии с силовиками все это происходило, видно на снимках. В этот день, по информации правозащитников, в Беларуси были задержаны более 1000 человек.










СЛОВЫ ЎДЗЯЧНАСЦІ

# Паважаныя нашы валанцёры!

Рэдакцыя бясконца ўдзячна Вам за дапамогу ў распаўсюджванні газеты «Народная Воля» і за вырашэнне пытанняў, звязаных з фінансавай падтрымкай! Зараз улады не даюць нам магчымасці тыражаваць газету нават пад Масквой! Друкарня скасавала дагавор з-за пагроз і ціску. І яшчэ тры маскоўскія друкарні адмовіліся супрацоўнічаць з намі, апасаючыся згубіць бізнес. Амаль увесь папярэдні тыраж быў скрадзены з рэдакцыі без усялякіх падстаў і дакументаў! Так беларуская ўлада абыходзіцца з газетай, якая мае ліцэнзію і пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі. Пра якую свабоду слова можна казаць?!

Звяртаемся да Вас, нашы дарагія валанцёры, а таксама да ўсіх нашых прыхільнікаў і неабыякавых людзей! Нам не абысціся без вашай дапамогі! Спампоўвайце з нашага сайта кожны свежы нумар газеты і распаўсюджвайце як мага шырэй матэрыялы выдання! Сёння слова **ПРАЎДЫ** павінна гучаць у нашай краіне, як ніколі раней! Мы не здаёмся і будзем спадзявацца, што хутка вернемся да працы ў звычайным рэжыме!

Трымаем сувязь!

**Рэдакцыя газеты «Народная Воля».**

ТЭРОР

# Якіх людзей затрымалі!

Здаецца, хутка ў Беларусі нельга будзе нават нармальна развітацца з чалавекам. Вось пазаўчора быў выхадны дзень, многія людзі вырашылі аддаць даніну памяці Раману Бандарэнку, які загінуў ад рук бандытаў у двары свайго дома. І што атрымалася? Паводле звестак праваабаронцаў, тыя, хто хавае свой твар пад маскай, схапілі і даставілі ў пастарункі больш за тысячу актыўных грамадзян. Сярод зняволеных апынуліся і вядомыя ўрачы-анколагі Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра імя Аляксандрава – кандыдат медыцынскіх навук, намеснік дырэктара **Павел Майсееў**, кандыдат медыцынскіх навук, загадчык аперацыйнага блока **Андрэй Палуянчык** і кандыдат медыцынскіх навук, загадчык аддзялення пухлін галавы і шыі **Яўген Кузьмін**.


Павел Майсееў.


Андрэй Палуянчык.


Яўген Кузьмін.

БЫЛО...

## Як 76-гадовы маскоўскі выдавец Барыс Пастарнак вырваўся з пастарунка

Пазаўчора сярод шматлікіх затрыманых быў і 76-гадовы Барыс Пастарнак, вядомы выдавец. Яго выдавецтва «Время» публікуе кнігі Святланы Алексіевіч, Віктара Марціновіча і іншых вядомых пісьменнікаў. Вось што ён расказаў:

– Усё адбылося каля 14-й гадзіны, калі пачаўся хапун ля метро «Пушкінская».

Я выйшаў з падземнага перахода і падышоў да мемарыяла Тарайкоўскага. І тут з боку кінатэатра «Аўрора» спусціліся чорна-зялёныя чалавечкі і пачалі хапаць проста выпадковых людзей, тых, хто стаяў ля мемарыяла. Гэтых затрыманых спрабавалі адбіваць астатнія, у асноўным, пажылыя жанчыны.

А ля дарогі стаялі два мікрааўтобусы сілавікоў.

Гэтыя мікрааўтобусы, напэўна, вельмі крохкія, бо хтосьці пнуў той мікрааўтобус і з яго адразу ж высыпаліся сілавікі ў чорным і пачалі таксама затрымліваць усіх, хто трапіць пад руку.

На мяне, напэўна, звярнулі ўвагу, бо я стаяў са смартфонам, – у выніку, адзін сілавік штурхнуў мяне ў спіну. Я ледзь не ўпаў, мяне падхапілі «чорныя» і закінулі ў мікрааўтобус. Пасля на мяне кінулі яшчэ трох чалавек. Мне пашанцавала, што я аказаўся ўнізе, бо тых, хто ляжаў зверху, білі дубінкамі.

Пасля пэўны час мы недзе ездзілі, і ў выніку нас даставілі ў Фрунзенскае РУУС. Мне адразу там сказалі: «На вас крымінальны артыкул за пашкоджанне міліцэйскай маёмасці! Вас затрымаюць на трое сутак!» Следчы, ці хто там, пачаў складаць пратакол, я напісаў, што з пратаколам не згодны. Кажу: у вас жа там здымаў нейкі чалавек усё на камеру, дык вазьміце праглядзіце запіс, і ўсё стане бачна. Бо я ж не ў тым узросце і тэмпераменце, кажу, каб біць міліцэйскія аўтобусы.

Тут зайшоў дзяжурны адвакат і паведаміў, што адзін з амапаўцаў штосьці там засумняваўся і адмовіўся ад паказанняў. Следчы выйшаў, пасля вярнуўся, сказаў мне: «Вы свабодны!» І парваў пратакол.

Пашанцавала.

*(NN)*

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Что это, если не начало гражданской войны?

Некоторые коллеги-журналисты активно используют название картины Сальвадора Дали «Предчувствие гражданской войны» для характеристики сложившейся в Беларуси ситуации.

Простите, а что тут чувствовать? Гражданская война уже идет. И ее ход констатировал не кто-нибудь, а пресс-секретарь МВД Ольга Чемоданова. Цитирую: «*Некоторые граждане с целью доведения до окружающих своего личного мнения по поводу своей политической позиции вывешивают, рисуют, наклеивают негосударственную символику на фасадах зданий, городских конструкциях, личных автомобилях и т.п. Другие неравнодушные граждане пытаются восстановить порядок и не допускать нарушений правил благоустройства. С последствиями подобных конфликтов, иногда весьма плачевными, разбирается МВД*».

Это – по поводу гибели Романа Бондаренко. Не знаю, поняла ли сама госпожа полковник, что именно она сказала, но выглядит это так: одни граждане вывешивают ленточки, а другие – похищают людей, которых потом находят настолько избитыми, что они умирают прямо в больнице, не приходя в сознание. Называть похитителей людей – и, возможно, убийц – «неравнодушными гражданами» может в наших условиях разве что лауреат премии Президента Республики Беларусь «За духовное возрождение» и специальной премии Минского облисполкома «Человек года Минщины», каковым Ольга Николаевна является.

Лицо, присудившее в свое время Ольге Чемодановой премию «За духовное возрождение», так описало ситуацию, в которой – и это уже очевидно – был похищен Роман Бондаренко: «*Мы в последнее время создали дружины, их, по-моему, около 500 в Минске только, и они тоже ходили и срезали эти флаги. В одном из дворов, как мне доложили, они пришли срезать флаги. А те, кто там живет и эти ленточки вывешивал (на заборах, спортивных площадках), выскочили из домов, и потасовки были*». То есть выскочили защищать ленточки, и одного из выскочивших забили до смерти. Среди забивавших до смерти пострадавших нет, а дружин таких – одна из которых, как можно понять, и похитила, а потом забила Бондаренко, – государство (!!!) создало около 500. Или создало их не государство, а профсоюзы вкупе с «Белой Русью»? Когда-нибудь узнаем.

Итак, «неравнодушные», по словам госпожи Чемодановой, граждане убили другого – неравнодушного, раз вышел на крик женщины, – гражданина. Что это, если не начало гражданской войны?

Судя по теплым словам госпожи Чемодановой, похищение и убийство – это одна из форм восстановления порядка, нарушенного вывешиванием во дворе ленточек, а по словам господина Лукашенко, совершили это «дружинники», поощряемые государством. Откуда взялись эти дружинники?

Возможно, один из кадровых резервов обозначил полковник Николай Карпенков, похвалив представителей криминального мира: «*Бандиты же понимают, что милиция добивается соблюдения закона и порядка. И относятся к этому, в принципе, с уважением. Происходящее сейчас на улицах они не поддерживают, как и малолеток с флагами коллаборационистов, недовольных коммерсантов, для которых государством созданы все условия, «толерантных» хипстеров, ходящих на митинги рядом с розовыми и голубыми флагами*». Если кто-то не помнит: чтобы повысить уровень своей поддержки в советском обществе в 1953 году Лаврентий Берия распорядился выпустить из тюрем не «политических», а именно столь близких полковнику Карпенкову уголовников.

И никто при этом не отрицает права набранных таким образом «дружинников» совершить то, что они совершили с Романом Бондаренко. Ни один человек. Включая человека, считающего себя командующим всеми силовыми структурами и спецслужбами Беларуси. Мол, «неравнодушные граждане» вышли наводить порядок – так пусть его наведут. Не все же милицию ненавидеть.

Да, плохо, когда народ ненавидит свою милицию. Но еще хуже, когда насилие, вплоть до убийства, применяют лица, не имеющие никакой официальной формы, никаких документов, которые уполномочили бы их это насилие применять. Можно говорить, что де-факто мы имеем дело с бандитским формированием, причем незаконным. А, согласно нашему законодательству, граждане имеют полное право защищать свою жизнь и собственность. Или – нет?

И если граждане не имеют права защитить человека, похищаемого неизвестными, то это – бандитский беспредел, покрываемый господами Чемодановой, Карпенковым и Лукашенко. А если имеют, то это – гражданская война.

Интересно, что выбирает в данном случае вышеупомянутая тройка? И что выбирает вся система правоохранительных органов?

В каком страшном сне хотели бы услышать те милиционеры, которые погибли от рук бандитов, похвалу в адрес своих убийц от высокопоставленного милицейского чиновника?

В какой фильме ужасов очаровательная дама в полковничьих погонах назвала бы убийц неравнодушными гражданами?

О третьем источнике цитаты я промолчу. В свое время из патриотов-мясников, как мы помним, формировался «Союз Михаила Архангела» и пресловутая «Черная сотня», зверски расправлявшиеся как раз с «политическими». Закончилось все очень плохо – причем для всех. Тогда, после 1917 года, уже не разбирались, кто интеллектуал, а кто и впрямь за топор и булыжник хватался. И городовых действительно вешали – причем не бронзовых, поставленных возле нашего МВД на казенные деньги. Живых.

Прощение государством убийства Романа Бондаренко развязывает руки всем. До сих пор силовиков никто не трогал. Во всяком случае никто из милиции не мог «похвастаться» такими последствиями побоев, которые демонстрировали участники акций протеста. Похищение из двора собственного дома неизвестными людьми в штатском и последующая гибель гражданина – начало реальной гражданской войны. Если этого не понимают Лукашенко, Карпенков и Чемоданова, то кто-то же в силовых структурах это понимает? Если они не думают о себе, пусть подумают о собственных сыновьях, которых это может коснуться. Всех коснуться. И никакая власть никакого Лукашенко не стоит реального мира и спокойствия в стране.

Подумайте об этом, люди в форме и без нее.

БЛІЦ

***З'явілася інфармацыя, што ў Беларусі можа быць пабудавана яшчэ адна атамная станцыя. Пры гэтым ужо з даследчым ядзерным рэактарам. Быццам бы расійскі бок уключыўся ў перамовы з нашымі ўладамі наконт дэталёвай прапрацоўкі кантракта.***

***У свой час на старонках "Народнай Волі" было надрукавана нямала артыкулаў, аўтары якіх – вядомыя навукоўцы, спецыялісты ў галіне медыцыны, аховы навакольнага асяроддзя – выступалі супраць будаўніцтва атамнай станцыі ў Астраўцы, патрабавалі правядзення агульнанацыянальнага рэферэндуму. На жаль, улады на чале з А.Лукашэнкам праігнаравалі прапановы грамадскасці і без усенароднага абмеркавання прынялі рашэнне аб узвядзенні атамнай станцыі ў Гродзенскай вобласці.***

***Ці не пара ўжо сёння біць у званы так, каб перапонкі лопаліся ў вушах тых, каму, бачыце, мала адной атамнай станцыі – давай, маўляў, пабудуем яшчэ адну? Беларусь яшчэ не здолела адысці ад Чарнобыля, а тут можа нявіснуць над краінай яшчэ адзін Чарнобыль…***

**Вольга ХАЛАДОВІЧ,**
**прыхільніца прыродных крыніц энергіі.**

АД РЭДАКЦЫІ

*Нельга не звярнуць увагу на ліст спадарыні Халадовіч. У многіх краінах, напрыклад, у Швецыі, згортваюць ядзерную энергетыку. І там вырашэнне актуальных праблем абмяркоўваецца ўсім грамадствам, і менавіта яго воля з'яўляецца абавязковай для ўлад.*

*Зыходзячы з такой канцэпцыі, "Народная Воля" і прапанавала шэрагу вядомых асоб адказаць на такое пытанне:*

# Ці патрэбна Беларусі другая атамная станцыя?

### Уладзімір НІСЦЮК,

**выконваючы абавязкі старшыні асацыяцыі «Аднаўляльная энергетыка»:**

– Калі ў Беларусі будавалі першую АЭС, то адзін з галоўных аргументаў быў – энергетычная бяспека краіны.

Але ўжо зараз з адной гэтай станцыяй мы прыйшлі да таго, што энергетычная бяспека пераўтварылася ў энергетычную небяспеку. Калі лішак электраэнергіі запатрабаваў вялізных дадатковых сродкаў для таго, каб адаптаваць яе ў энергетычны комплекс краіны.

Таму замах яшчэ і на другую атамную станцыю – гэта, на мой погляд, вельмі непрадуманы і непралічаны крок. Ні з пункта гледжання энергетыкі, ні з пункта гледжання эканомікі. Можа быць, улады такім чынам хочуць атрымаць нейкія палітычныя дывідэнды, але эканоміка тут дакладна не выйграе.

Акрамя таго, для таго каб пачаць будаўніцтва другой АЭС, неабходна правесці грамадскія слуханні, і думаю, што ў сённяшніх умовах зрабіць гэта будзе надзвычай складана. Так як раней, ужо не будзе.

І яшчэ адзін момант. У краіны проста няма грошай на будаўніцтва такой станцыі. Залезці яшчэ ў большыя даўгі і яшчэ ў большую залежнасць ад Расіі будзе азначаць перспектыву таго, што Расія ў адзін цудоўны момант нам выставіць рахункі.

Таму не трэба нічога выдумляць. У Беларусі і без АЭС электраэнергіі было больш, чым патрабавала эканоміка. АЭС дае шмат пазітыўных рэчаў, але, акрамя гэтага, дадала і шмат праблем. Дык ці варта гэтыя праблемы яшчэ і падвойваць?

### Станіслаў ШУШКЕВІЧ,

**экс-старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі:**

– Калі запрацуе пабудаваная Беларуская АЭС, то ў краіне на душу насельніцтва будзе выпрацоўвацца электраэнергіі больш, чым неабходна для дабрабыту людзей. Таму словы пра будаўніцтва другой АЭС у Беларусі – гэта проста беспадстаўныя заявы, якія нават не варта абмяркоўваць.

### Тэнгіз ДУМБАДЗЭ,

**дэпутат Палаты прадстаўнікоў:**

– Думаю, што наяўнасць у краіне атамнай электрастанцыі – гэта гарантыя энергетычнай і нацыянальная бяспекі. Наколькі мне вядома, таксама высока ацэньваецца ступень бяспекі самой Беларускай АЭС. Трэба разумець, што атамная электрастанцыя дазволіць без аніякай знешняй дапамогі праводзіць сваю энергетычную палітыку. Спадзяюся, што найперш ад гэтага выйграюць простыя людзі.

Што датычыцца магчымага будаўніцтва другой АЭС, то апошняе слова тут павінны сказаць спецыялісты. Але, на мой погляд, прагнозы рабіць сёння рана. Ва ўсім свеце адбываюцца вельмі непрадказальныя падзеі.

### Яраслаў РАМАНЧУК,

**эканаміст:**

– Яшчэ ніхто дакладна не ведае, ці патрэбна краіне і першая АЭС. Гледзячы з якога боку да гэтага пытання падыходзіць. Калі размова ідзе пра тых, хто асвойвае крэдытныя рэсурсы Расійскай Федэрацыі (а гэта – магутнае атамнае лобі ў Расіі і іх партнёры ў Беларусі), то, безумоўна, патрэбна і першая АЭС, і другая.

Калі разглядаць гэтыя праекты з пункту гледжання камерцыйнага сэнсу, то нават першая АЭС не патрэбна. Нават паводле ацэнкі афіцыйных улад, кошт электраэнергіі пасля таго, як атамная электрастанцыя запрацуе, будзе вышэйшы, чым да гэтага. І дадайце сюды выдаткі на кансервацыю магутнасцяў, страты краіны ад таго, што мы перастанем купляць танную імпартную электраэнергію.

Таму на прыкладзе будаўніцтва АЭС мы бачым, як можна за кошт наменклатурна-сілавых кланаў і пэўных лабістаў нанесці моцны ўдар па канкурэнтаздольнасці нацыянальнай эканомікі.

### Ігар БАРЫСАЎ,

**старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада):**

– Мы пакуль не ведаем, як Астравецкая АЭС будзе працаваць, таму разважаць пра будаўніцтва другой атамнай станцыі, мяркую, пакуль наогул няма сэнсу. Калі яна і будзе будавацца, то, відаць, ужо пры іншым кіраўніцтве краіны.

Таму няхай спачатку разбяруцца з Астравецкай АЭС. Якія даўгі засталіся? Ці будзе прыбытак? Наколькі яна ўпісваецца ў нашу энергасістэму? Грамадства ж не ведае поўнай карціны.

Што датычыцца нашай партыі, то мы заўсёды выступалі супраць атамнай энергетыкі. І асабліва супраць тых тэхналогій, якія былі выкарыстаны падчас будаўніцтва гэтай АЭС.

### Павел КАЗЛОЎСКІ,

**экс-міністр абароны Беларусі:**

– Мы ж бачым, што сёння некаторыя еўрапейскія краіны адмаўляюцца ад будаўніцтва атамных АЭС, закрываюць дзеючыя станцыі. Найперш гэта робіцца ў мэтах бяспекі людзей. Беларусы адносна не так даўно перажылі страшную Чарнобыльскую катастрофу, таму таксама павінны памятаць, што атам можа быць не толькі мірным, а і прынесці людзям вялізнае гора.

Можа быць, пабудаваная АЭС і будзе прыносіць пэўную эканамічную выгаду, але пра будаўніцтва другой станцыі сёння нават не варта казаць. Не тая сітуацыя.

### Георгій ЛЕПІН,

**прафесар, удзельнік работ па ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС:**

– Шчыра кажучы, нам і першая атамная станцыя не патрэбна, хаця яе ўжо пабудавалі, а таму ад яе нікуды не падзенешся.

Але навошта нам лішак электраэнергіі? Куды яго падзець? І, па-другое, АЭС можа прынесці краіне вельмі шмат непрыемнасцяў (трагедыя на Чарнобыльскай АЭС таму пацвярджэнне), а таму, адправедна, за ёй давядзецца вельмі пільна дбаць у абслугоўванні.

А мы што бачым? Не паспелі запусціць Астравецкую АЭС, як праз некалькі дзён яна спыніла працу, бо нешта там згарэла. З такімі рэчамі не жартуюць.

**Апытанне праводзіў Алесь СІВЫ.**

БЛІЦ-КАМЕНТАРЫЙ

Валерый КАРБАЛЕВІЧ,
палітолаг

## Трэба мяняць усю сістэму

Лукашэнка на ўчарашняй нарадзе заклікаў парламент і ўрад браць на сябе паўнамоцтвы і вырашаць тыя дзяржаўныя праблемы, якія цяпер вымушаны вырашаць ён сам.

Але, каб пераразмяркаваць паўнамоцтвы паміж іншымі дзяржаўнымі органамі, такія органы павінны існаваць у рэале, а не толькі намінальна. Павінен існаваць парламент, выбраны народам, а не прызначаны. Гэта хто, Маша Васілевіч будзе вырашаць дзяржаўныя праблемы?

Павінен быць не тэхнічны урад, як сёння, а ўрад, які абапіраецца на парламенцкую большасць. Гледзячы на тых урадоўцаў, якія тупа запісваюць кожнае слова Лукашэнкі, цяжка ўявіць іх дзяржаўнымі дзеячамі.

Пвінен быць незалежны суд.

Нічога гэтага ў краіне няма. 26 гадоў у Беларусі рэальна дзейнічаў толькі інстытут прэзідэнта. Усе астатнія органы існавалі толькі намінальна, у якасці простых рэтранслятараў. Гэта палітычная пустыня. І цяпер на гэтай пустыні Лукашэнка хоча, каб нешта пачало расці.

Трэба мяняць усю сістэму.

СЛОВО ЦЕРКВИ

Сергей ЛЕПИН,
пресс-секретарь Белорусской православной церкви:

– Не пойму, зачем это глумление над портретами убиенного, над цветами в его память, зачем это сатанинское попрание лампад и иконок, борьба с импровизированным мемориалом во дворе его дома, вдоль дорог? В чем смысл? Не согласовано, да? А вот такое поведение и отношение – оно согласовано? С кем?

СКАЗАНА!

Юрый КАСАБУЦКІ,
генеральны вікарый Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, епіскап:

*– Дарагія мае сябры! Мы ўсе добра ведаем і бачым, што адбываецца ў нашай каханай Беларусі. Насілле, гвалт, катаванні, зневажанне чалавечай годнасці, агрэсія з боку дзяржаўных сілавых структур у адносінах да мірных грамадзян нашай краіны.*

*Сённяшнія паводзіны сілавікоў паказваюць павелічэнне страху і боязі дзяржаўнай улады ў дачыненні да беларускага народа. Разбурэнне народнага мемарыяла, які паўстаў на месцы брутальнага захопу Рамана Бандарэнкі, быў чарговай спробай знішчыць усё тое высакароднае, чыстае, светлае, што ёсць у нашых людзей. Арышт шматлікіх мірных грамадзян павінен запалохаць іншых людзей. Аднак усе гэтыя рэпрэсіі толькі ўмацоўваюць нас.*

ВЕРСИЯ

# Мужчина в сером костюме, который напал на Романа Бондаренко на «Площади перемен», очень похож на известного спортсмена

Среди компании «небезразличных граждан», которые приехали срезать ленточки во «двор перемен» на улице Червякова в Минске, в тот вечер заметили несколько человек, очень похожих на членов команды «срезателей ленточек», которая 18 октября была в столичном ЖК «Мегаполис». Тогда, кстати, среди «гостей» «Мегаполиса» очевидцы приметили мужчину, очень похожего на нынешнего главу Федерации хоккея Беларуси Дмитрия Баскова. И жители «двора перемен» рассказали, что среди «гостей» 11 ноября они также видели мужчину, очень похожего на того, что на этом снимке из «Мегаполиса» находится слева.



Рядом с ним и тогда, и 11 ноября был «неравнодушный гражданин» в сером костюме и стеганой жилетке. И спортсмен, на которого он очень похож, плотно контактирует с Басковым в спортивной и не только жизни.

Именно этот мужчина в сером костюме, судя по видео из «двора перемен», принимал активное участие в нападении на Романа Бондаренко.

Вот, например, на видео слышно: «На землю, бл***!!!» – и автор видео поворачивается на крик. У турника лежит парень весь в черном (капюшон такого же цвета), над ним стоит мужчина в сером костюме и стеганой безрукавке.

Этот человек в сером спортивном костюме и безрукавке очень похож на чемпиона мира по тайскому боксу и кикбоксингу **Дмитрия Шакуту**. Люди, знакомые с ним по миру единоборств, говорят, что голос на видео, глаза над маской и та часть лица, которую она не скрывает, очень похожи на голос и лицо Шакуты.

***

Дмитрий Шакута родился в Минске в 1980 году. Боец выступал на любительском и профессиональном уровнях в двух стилях – тайский бокс и кикбоксинг. Дмитрий становился чемпионом мира в разных версиях и весовых категориях – IKF, WAKO, WAKO-Pro, ISS-Brute Force, WKN, WPKL, W5, IAMTF и IFMA.

Профессиональную карьеру Шакута завершил в 2013 году, имея в кикбоксинге соотношение выигранных и проигранных боев 78:13.



ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА

# Почему я не эмигрирую

Знакомый рассказал. Дочь его приятеля, отсидевшую на сутках студентку, семья решила направить на недельку в один из санаториев (белорусских, разумеется) – подлечиться и отдохнуть. Но путевку – в это время года, при нынешнем состоянии кошельков наших сограждан – купить не смогли. Им сказали, что все занято бойцами ОМОНа.

Не знаю, правда это или нет. Но если омоновцы и впрямь там релаксируют, то вовсе не потому, что им нанесли какие-либо травмы. Скорее, просто не выдерживают нервы. И наша «революция по графику» превращается для них в отдых по графику: раз нужно все силы выложить, чтобы расчистить улицы и площади Минска в субботу и воскресенье, то в остальные дни можно пройти необходимые процедуры восстановления психики и мускулатуры. Тем более что денег у них хватает: в интернете уже появлялась информация о том, сколько алиментов получили некоторые жены омоновцев за сентябрь. До 4 тысяч рублей. Я рад за детей, которым отцы-алиментщики могут помогать столь щедро.

Но вот вопрос о том, где смогут прийти в себя студенты, против которых был употреблен слезоточивый газ, люди, принявшие на себя удар резиновой пули или разорвавшейся под ногами светошумовой гранаты, остается для меня открытым. Крупнейшими владельцами здравниц на территории Беларуси являются Управление делами президента (управляющий – Виктор Шейман) и Федерация профсоюзов Беларуси (председатель – руководитель инициативной группы по выдвижению Александра Лукашенко Михаил Орда). Будем считать, что эти структуры с радостью продали бы путевки любому гражданину Республики Беларусь. Но при приезде в санаторий (а это именно лечебно-оздоровительное учреждение, а не частная вилла на берегу Адриатики или отель в Анталии), как правило, нужно заполнять листок, где указывается, чем страдает и от чего намерено лечиться то или иное лицо. И вот что прикажете писать? И как должен вести себя главный врач того или иного ведомственного учреждения?

Раскол страны, случившийся у нас в 1995 году, сегодня превратился в кровоточащую рану. Она и до этого-то не лучшим образом обрабатывалась: тем, кто стоял у власти, было абсолютно безразлично, что о них думают. Их устраивало все. И прежде всего – беспрекословное подчинение тех, кто занимает нижние ступеньки на иерархической лестнице власти.

Что сейчас? Постепенное омертвение государственной плоти? Это вполне возможно: живые клетки государственного организма, каковым является народ, уже пытаются пробиться. Кто-то уезжает сам, кого-то депортируют силой. А те, кто остается, либо будут вынуждены подчиниться жесткому давлению и деформироваться под этим давлением, либо – отмереть. И никакой санаторий не поможет. Другого выхода из ситуации нет.

Вот почему я обращаюсь к тем, кто принимает для себя решение уехать. Не делайте этого. Нельзя отдавать им нашу страну. Она умрет без нас, как мы умрем без нее.

Так получилось, что 2 июля 2020 года я уехал работать по четырехмесячному контракту в Украину. И все, что началось у нас 9 августа, вплоть до окончания действия контракта, я видел в мониторе компьютера.

Это очень тяжело – все видеть, многое понимать и быть не в состоянии что-либо изменить. Но всем, кто меня спрашивал, не боюсь ли я вернуться домой, я отвечал:

– Не боюсь. Почему я должен отдавать этой банде свою страну?

Но прошли четыре месяца, и 27 октября я прилетел домой. Купив уже мне билет, мой менеджер спрашивал:

– Может, останешься? Просто так – на всякий случай? У вас там уже епископа (Тадеуша Кондрусевича) не впустили. Лучше, чтобы жена к тебе приехала. Попросите политического убежища…

Не попросил и не попрошу. Можно на время уехать на работу, если тебе не дают работать дома. Но бросать свой дом – нельзя.

Всеми силами люди, одетые в черное и серое, как омертвевшие клетки, пытаются захватить нас, еще живых, лишить нас кислорода, помешать нам жить. Они понимают, что наш мирный протест не может остановить их, – и они счастливы поэтому. И будут счастливы до тех пор, пока с ужасом не увидят: убивая нас, они убивают весь организм. И самих себя в том числе.

И тогда побегут они. Потому что их агрессия против них же и обернется. Никакой санаторий тут не поможет. Таков закон жизни.

Оставим себе пространство свободы. Пусть минская Площадь Перемен будет вновь и вновь «зачищаться» – цветы и лампады в память Романа Бондаренко, первой жертвы теперь уже официально развязанной гражданской войны в Беларуси, будут появляться вновь и вновь, я в этом уверен. Помните, в «Белых одеждах» Дудинцева аспирантка, предавшая своего учителя, многие годы после его гибели ходит в читальный зал, чтобы вырезать страничку газеты, где запечатлено ее предательство. А копия страницы возвращается на свое место.

Свобода – наше место. Мы не должны его сдавать.

Некоторые журналисты пишут: власть думает, что протесты – это паста, которую можно запихнуть назад в тюбик. Неправда. Это не паста. Это вулканическая лава. Она может на время остыть, но смыть ее, подобно пасте из тюбика, нельзя. Извержение вулкана меняет ландшафт.

Мы должны быть благодарны тем, кто защищал все это время нашу и свою свободу, наше общее право выбора. Они изменили политический ландшафт. И люди в черном и сером, сколько бы они ни думали, что вернули себе контроль над всем организмом, будут выходить на улицу и оглядываться.

И так будет всегда.



СИТУАЦИЯ

Дмитрий ЖИТЬКО:

# «Таким униженным я себя еще никогда не чувствовал...»

Гродненцу **Дмитрию Житько** 26 лет. Он работал монтажником и строил новую ветку метро в Минске, но не смог увидеть ее торжественного открытия с участием Александра Лукашенко 6 ноября, так как уехал из Беларуси и попросил убежища в Латвии. .

### «Бойцы в масках кричали, что все, кто выходит на улицу, – проплаченные»

Дмитрия с другом задержали вечером 10 августа в Минске. Они возвращались домой из торгового центра. Дома Дмитрия ждали жена и грудной ребенок. Центр города был перекрыт ОМОНом. Дмитрий подошел к силовикам спросить, как безопасно попасть домой. Через два блокпоста (около 300 метров) его с другом пропустили, но на третьем задержали.

*«Все было перекрыто, автобусы не ходили. Мы просили у милиции помощи. У нас был чек, доказывающий, что мы были в магазине. Нас сначала пропустили. На третьем блокпосте к нам подошли силовики и предложили пройти в автозак для проверки личности, а оттуда перевели в микроавтобус с тонированными стеклами. Там нас положили на пол и стали бить. Бойцы в масках кричали, что все, кто выходит на улицу, – проплаченные».*

### «Таким униженным я себя еще никогда не чувствовал»

После этого Дмитрия с другом доставили на Окрестина.

*«Провели нас через «коридор», где сотрудники били дубинками. После всех задержанных выставили около стены и стали избивать. Как я понял, мест в камерах не было. Нас с другими задержанными, около 75 человек, держали в прогулочном дворике под открытым небом. За 2,5 суток на всех нам дали одну буханку хлеба и четыре литра воды».*

13 августа у Дмитрия был суд. Его осудили по 23.34 КоАП (Участие в несанкционированном массовом мероприятии). Многим задержанным в тот день давали по 15 суток ареста. Дмитрию дали 14.

*«Я никогда не видел такого зверства. В один момент я заплакал. Боялся, что больше не увижу семью. Пока были во дворике, в туалет нас не выводили. Только в последнюю ночь раскидали по камерам – погреться. Таким униженным я себя еще никогда не чувствовал».*

После суда Дмитрия перевели в слуцкий ЛТП. Там он пробыл сутки. 14 августа его, как и других задержанных, отпустили.

*«В Слуцке было нормально, кормили и никаких издевательств. По освобождении я подписал бумагу о том, что больше не буду участвовать в массовых мероприятиях – хоть я и не участвовал. На выходе из ЛТП встретили волонтеры, записали мои данные и историю, а потом довезли до Минска».*

### Два месяца на больничном и уголовное дело

После освобождения Дмитрий обратился к медикам. У него диагностировали гематомы и кровоподтеки, ЧМТ, травмы спины, коленного и локтевого суставов, кисти, ушиб паховой области и бронхит (он считает, из-за долгого нахождения на бетонном полу).

На больничном, говорит Дмитрий, он был два месяца. Пока лечился, ему стали звонить следователи. Дмитрий говорит, что его хотели сделать фигурантом уголовного дела о массовых беспорядках в Минске.

*«Сначала давили на друга, чтобы он дал показания против меня. Потом и на меня стали давить. Называется, в магазин сходили… Раньше политику я вообще старался стороной обходить и не выступал против Лукашенко».*

### Лагерь для беженцев

В сентябре Дмитрий начал писать на электронные адреса посольств стран Европейского Союза, чтобы ему помогли с визой для выезда из Беларуси. Откликнулась Латвия.

*«В посольстве я рассказал свою историю, предоставил все медицинские справки и протоколы. Нам помогли с визами. И в конце октября мы выехали из Беларуси. На границе у латвийских пограничников попросили политического убежища. Все отнеслись к нам с пониманием и доставили в лагерь для беженцев. Там уже было более десятка пострадавших белорусов из разных городов».*



Дмитрий говорит, что условия в лагере для беженцев нормальные. С питанием помогают волонтеры, а также государственные службы.

*«Лагерь – это что-то похожее на общежитие в Минске. В этом месте нам придется быть около шести месяцев, пока не рассмотрят наше дело. Мы не голодаем. Главное, что не на улице. Хотелось бы быстрее выйти на работу, но беженцы на начальном этапе не могут это делать.*

*Также надеюсь, что в ближайшее время мы вернемся домой. У меня в жизни было всякое, но я не был участником протеста и ничего противозаконного не делал в тот день. Думаю, в такой ситуации оказались многие белорусы».*



Дмитрий в Латвии.

Напомним, на днях Александр Лукашенко высказался про уехавших за границу белорусов:

*«Кто-то захотел уехать – пусть уезжает, не надо никого держать. Вот сегодня пришла информация из Латвии. Некоторые туда уехали, позвали их туда. И где они сейчас живут в этой стране? В какой-то резервации за два с половиной доллара в день. Где миллионы, которые обещали, или хотя бы тысячи долларов? Поэтому пусть люди попробуют. Когда они попробуют это все, они сделают соответствующие выводы».*

Напомним: в конце октября в МВД заявили, что с начала осени в Польшу выехали около 10 тысяч белорусов, в Украину — 3 тысячи, в Литву и Латвию – не более 500. Если сравнить эти данные с данными Белстата о международной миграции, то получается, что за два неполных месяца этого года за границу уехало в несколько раз больше человек, чем за весь прошлый год.

### Полгода без работы

С начала президентской кампании в Беларуси политического убежища в Латвии попросили около 20 белорусов. Соискатели убежища живут в лагере Муцениеки и получают пособие – 21 евро в неделю (3 евро в день). Также беженцам помогают в лагере с питанием и вещами волонтеры Красного Креста и местная диаспора белорусов.

*«Сейчас латвийское правительство рассматривает вопрос о получении статуса беженца для 20 человек из Беларуси, –* рассказывает волонтер Дайнис Дейгелис. *– Приехало больше людей, но не все просили убежища. За последние несколько месяцев визы соответствующей категории были выданы приблизительно 120 белорусам. Многие переезжают работать в Латвию. Люди, у которых нет средств, живут в центре для беженцев. Там предоставляется социальная помощь от латвийского Красного Креста. Волонтеры помогают с документами и вещами. Беженцам помогают и с медпомощью и интеграцией в Латвии».*

Дайнис говорит, что дело каждого беженца рассматривают в течение трех месяцев. Если они получают статус беженца, то могут работать только после 6 месяцев пребывания в Латвии.

*«Мы, волонтеры, считаем, что это очень плохо. Беженцы хотят работать, тем более белорусы. Сейчас волонтеры ведут переговоры с правительством Латвии, чтобы дать возможность беженцам работать после трех месяцев пребывания в стране».*

*(Hrodna.life.)*

SOS!

# Более тысячи зараженных – каждый день

Неутешительная статистика… Накануне воскресенья за сутки коронавирус подхватили в нашей стране 1315 человек. Не обрадовали и последующие дни. Конечно, хотелось бы скорее избавиться от этой вирусной напасти. А для этого каждому из нас следует лучше оберегаться. Давайте не стесняться носить маски в общественных местах, дистанцироваться друг от друга на работе, в транспорте, при проведении массовых мероприятий. Да и вообще не забывать, что на улице поздняя осень, когда эпидемиологическая обстановка ухудшается по ряду природных причин. Важно не допустить снижение иммунитета, не подвергнуться сопутствующим заболеваниям.



СЛОВО СПЕЦИАЛИСТУ

### Игорь КАРПОВ, заведующий кафедрой инфекционных болезней Белорусского государственного медуниверситета:

– Пожилые люди болеют сложнее, с большим количеством осложнений. Часто играют роль те заболевания, которые уже нажиты к определенному возрасту, которые составляют проблему здоровью и без ковида. Наслоение этих болезней на вирус создает не просто проблемы, а иногда проблемы неразрешимые.

Вот четыре важных мероприятия, которые следует учитывать и выполнять.

Первое – это вопросы, связанные с дистанцированием. Важно держать дистанцию в полтора метра. Второе – это проветривание помещений, для того чтобы избавиться от дисперсных частиц в воздухе. Это реально снижает возможность заболевания. Третье – не надо забывать про гигиену рук. Ковид – заболевание молодое в человеческой популяции. Эти вирусы помнят еще о своей биологической природе, то есть циркуляции среди других видов. Соответственно, самые различные выделения, загрязнение плоских поверхностей играет в передаче вируса большую роль.

Еще один важный момент – ношение масок. Более половины людей заболевает от бессимптомных лиц, которые передали им эту инфекцию. Соответственно, если такой человек носит маску, то меньше вероятность такой передачи. На это махать рукой сейчас просто недопустимо.

СИМПТОМЫ

### У вас одышка?

Врачи часто спрашивают у пациентов: "У вас есть одышка?" Да, если человек ею страдает, то при коронавирусном заболевании этот фактор имеет существенное значение.

Известный инфекционист **Владимир Чуланов** дает такой совет. Чтобы определить частоту дыхания, нужно засечь по часам, сколько вдохов и выдохов вы делаете за минуту (порог – 22). Если вдохов-выдохов меньше 22, нет поводов для тревоги, ваши легкие целы.

ПРОГНОЗ

### Выход на плато – декабрь-январь

*Какой прогноз по коронавирусу в Беларуси и кто получит первую вакцину?*

**Ситуация с коронавирусом в Беларуси серьезнее, чем при первой волне. Пока наблюдается ежедневный прирост числа заболевших, но эксперты надеются, что он прекратится к Новому году, а возможно, по некоторым регионам и раньше, заявил в интервью «Беларусь 1» главный санитарный врач Александр Тарасенко.**

В частности, в Минской области уже есть регионы, где роста числа заболевших нет, отметил Тарасенко.

*– Надеемся, в целом по республике в декабре или даже январе выйдем на плато,* – сказал он, добавив, что эпидсезон по заболеваемости гриппом у нас ожидается в январе-феврале. Так что серьезное снижение заболеваемости ожидается только к весне.

*– И даже ближе к лету,* – уточнил он. *– Ситуация серьезная, не контролируемая.*

Главный санитарный врач также прокомментировал решение о введении во многих регионах страны и в Минске обязательного масочного режима. Он пояснил, что пока ответственности за нарушение режима не предусмотрено.

*– Идет активное информирование жителей, чтобы у них включался инстинкт самосохранения,* – рассказал Тарасенко, уточнив, что пока пойдут по пути давления на самосознание людей.

Главный санитарный врач также рассказал о ходе исследований российской вакцины от COVID-19 «Спутник V».

*– Исследования по вакцине еще идут, когда будут завершены испытания, тогда можно будет с уверенностью сказать, успешны ли они. Пока никаких проблем среди тех, кому она введена, не отмечалось, они себя чувствуют нормально,* – уточнил Тарасенко.

В Беларуси рассчитывают, что в 2021 году вакцину получат в первую очередь медработники, педагоги и силовики. Рассчитывают на не менее чем 1,8–2 миллиона доз.

ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ...

### …что убивает до миллиона вирусных частиц за 30 секунд?

Если не знаете, то приводим вам высказывание главы Роспотребнадзора **Анны Поповой**:

*– Этиловый и изопропиловый спирты даже в концентрации 30 процентов способны уничтожить до миллиона вирусных частиц за 30 секунд.*

Об этом высокопоставленная чиновница заявила на совещании по обсуждению вопросов санитарно-эпидемиологической обстановки в России, а также профилактики и лечения респираторно-вирусных инфекций.

СТАРОНКІ ГІСТОРЫІ

Уладзімір ЛЯХОЎСКІ, кандыдат гістарычных навук

# СЛУЦКІ ЗБРОЙНЫ ЧЫН

## За што ваявалі беларусы 100 гадоў таму

### *АД РЭДАКЦЫІ*

*100 гадоў таму беларусы на Случчыне са зброяй у руках выйшлі на змаганне супраць бальшавіцкай улады. Адны гісторыкі называюць тагачасныя падзеі Слуцкім паўстаннем, другія – Слуцкім збройным чынам Беларускай Народнай Рэспублікі, трэція – стыхійным народным бунтам. Адны падкрэсліваюць нацыянальна-вызваленчы характар вайны на Случчыне, другія звыклым чынам спісваюць усё на знешні ўплыў, на чарговую «польскую інтрыгу»...*

*Пра тое, што ж насамрэч адбывалася ў лістападзе–снежні 1920 года на Случчыне ды ў яе ваколіцах, можна даведацца з кнігі «Слуцкі збройны чын 1920 года ў дакументах і матэрыялах». Паколькі наклад кнігі проста мізэрны (усяго 200 асобнікаў), мы перадрукоўваем з яе аглядны артыкул вядомага гісторыка* ***Уладзіміра ЛЯХОЎСКАГА*** *«Спозненае рэха антыбальшавіцкага змагання за Беларусь». Каб нашы чытачы ведалі сваю гісторыю і памяталі сваіх герояў, на сцягах якіх беларускія жанчыны вышывалі словы: «Тым, што пайшлі змагацца і паміраць, каб жыла Бацькаўшчына».*



Мне хочацца засяродзіць увагу найперш на ключавых момантах: перадумовах і рухаючых сілах нацыянальнага і сацыяльнага ўздыму на Случчыне ў 1920 годзе, прычынах паражэння паўстання, месцы і значэнні збройнага чыну случакоў у гісторыі беларускага вызвольнага руху.

У гістарычнай літаратуры ў дачыненні да гэтай падзеі найчасцей выкарыстоўваецца тэрмін «паўстанне», але, на думку многіх даследчыкаў, такое азначэнне не зусім слушнае. Паводле агульнапрынятай тэрміналогіі, паўстанне – збройнае выступленне супраць існага ўладнага рэжыму, якому падкантрольна дадзеная тэрыторыя. Арганізацыя беларускіх органаў мясцовае ўлады і збройных сіл на Случчыне пачалася на завяршальным этапе польска-савецкай вайны, у час, калі большая частка павету не падпарадкоўвалася савецкай уладзе, а авангарды 16-й чырвонай арміі знаходзіліся ад Слуцка за некалькі дзясяткаў кіламетраў на ўсход. Аддзелы ж польскай 4-й арміі, паводле прэлімінарнага мірнага пагаднення, пачалі адыход на захад, на вызначаную дэмаркацыйную лінію. З другой паловы лістапада 1920 года цывільная ўлада на Случчыне перайшла ў рукі беларускіх нацыянальных арганізацый і вясковых валасных самаўрадаў. Гісторыкі беларускага замежжа паваеннага часу замест тэрміна «паўстанне» першымі пачалі ўжываць азначэнне «збройны чын». Гэта ўключае ў сябе і партызанскую вайну – звычайную тактыку слабейшага супраць больш моцнага праціўніка. Тым не менш абодва тэрміны сёння суіснуюць у гістарычных выданнях і часта ўзаемазамяняюць адно аднаго.

### Вытокі пратэсту

Пачаткам паўстання прынята лічыць 14 лістапада 1920 года, калі ў Слуцку распачаў працу Беларускі павятовы з'езд, які пацвердзіў сваю вернасць Акту 25 Сакавіка, што абвяшчаў Беларусь незалежнай і дэмакратычнай рэспублікай. 107 дэлегатаў форуму звярнуліся да сусветнай супольнасці з пратэстам супраць гвалтоўнага падзелу тэрыторыі Беларускай Народнай Рэспублікі паміж Польшчай і Савецкай Расіяй і запатрабавалі вываду замежных войскаў з тэрыторыі Беларусі.

На з'ездзе была ўтворана Беларуская рада Случчыны на чале з Уладзімірам Пракулевічам, якая абвясціла сябе адзінай законнай уладай у павеце, чым дэкларавалася непадпарадкаванне мясцовых органаў улады савецкаму ўраду. Гэта азначала непазбежнасць ваеннага канфлікту паміж прыхільнікамі БНР і Саветамі. Арганізацыю беларускіх вайсковых аддзелаў усклала на сябе адмысловая «вайсковая тройка» (А.Анцыповіч, А.Бачко і Я.Мацэля), вылучаная са складу Рады.

24 лістапада Беларуская Рада, якая не ў стане была ўтрымаць Слуцк перад наступаючымі рэгулярнымі часткамі расійскага чырвонага войска, адышла разам са сваімі збройнымі сіламі з горада ў мястэчка Семежава. Там было завершана фарміраванне двух беларускіх палкоў – Слуцкага і Грозаўскага. Пазней паўстанцы не аднойчы мянялі сваю дыслакацыю, каб пазбегнуць адкрытых баёў з перасяжнымі сіламі праціўніка.

### Якім быў баявы патэнцыял

У гістарычнай літаратуры колькасны склад Слуцкай беларускай брыгады ацэньваецца па-рознаму. Удзельнікі збройнага чыну ва ўспамінах падаюць, што колькасць паўстанцаў складала ад 7 да 10 тысяч чалавек. Але гэтая лічба тычыцца ўсіх тых добраахвотнікаў, хто адгукнуўся на заклік Беларускай рады Случчыны ўступаць у беларускае войска і прыйшоў у Семежава. Адсутнасць зброі і хуткі адыход паўстанцаў з гэтага мястэчка прымусіў многіх з іх вяртацца ў свае вёскі. Рэальна колькасны склад двух палкоў быў значна меншы.

У кароткім аглядзе гісторыі беларускага нацыянальнага руху, пададзенага ў 1928 годзе дэфензівай (контрразведкай) Генеральнага штаба польскага войска, узгадваецца лічба 4 тысячы слуцкіх паўстанцаў. Польскія гісторыкі З.Карпус і В.Рэзмер паводле сваіх падлікаў, узятых з рапартаў разведкі 4-й польскай арміі за снежань 1920 года, прыводзяць значна меншую лічбу – 1100–1200 чалавек. Савецкія ваенныя крыніцы вызначаюць колькасны склад паўстанцкага войска прыкладна ў 2 тысячы чалавек, пры гэтым у зводках 16-й арміі за снежань 1920 года паведамлялася, што больш за палову беларускіх вайскоўцаў не мела ўзбраення (паводле звестак упаўнаважанага ЧК па Слуцкім павеце, з двухтысячнага складу Слуцкай беларускай брыгады толькі 800 жаўнераў былі ўзброены вінтоўкамі і кулямётамі). Такім чынам, і польскія, і савецкія дадзеныя аб рэальным баявым патэнцыяле Слуцкай беларускай брыгады блізкія, і іх можна прызнаць аб'ектыўнымі.

### Першы бой

Вядома, што першы бой паміж паўстанцамі і аддзелам 16-й арміі адбыўся 27 лістапада каля вёскі Васільчыцы. Падчас яго чырвонаармейцы былі выбіты з вёскі. За больш як месяц баявых дзеянняў Слуцкая беларуская брыгада ажыццявіла больш за дзесяць вайсковых акцый супраць рэгулярных савецкіх войск. Гэта былі пераважна партызанскія дыверсіі, якія прыносілі праціўніку шмат турбот. Паўстанцы пасля праведзеных вайсковых аперацый, як правіла, адыходзілі ў 30-кіламетровую нейтральную зону, якая падзяляла польскія і савецкія часці.

З прыходам да кіраўніцтва Слуцкай брыгадай капітана Антона Сокал-Кутылоўскага дзеянні паўстанцаў сталі больш рашучымі. Найбольш значная падзея адбылася 17–19 снежня 1920 года, калі 1-ы Слуцкі полк павёў адкрытае наступленне супраць чырвонаармейцаў уздоўж старога Слуцкага тракту і зноў авалодаў мястэчкам Семежава, а праз два дні – мястэчкам Вызна. Цягам амаль цэлых сутак паўстанцы стрымлівалі атакі перасяжных сіл савецкіх войск і толькі ўвечары 19 снежня вымушаны былі адступіць, захапіўшы з сабой шмат вайсковай амуніцыі, зброі, а таксама палонных.

Савецкае кіраўніцтва сур'ёзна ўспрымала небяспеку слуцкага агменю супраціўлення, які мог перакінуцца на іншыя паветы Міншчыны і далей на ўсю Беларусь. На паўстанцаў былі кінуты дзве свежыя «надзейныя» дывізіі з суседняй 3-й арміі дзеля правядзення татальнай «зачысткі» нейтральнай зоны. У апошняй дэкадзе снежня аддзелы чырвонаармейцаў актывізавалі карныя аперацыі супраць случакоў. Адначасова савецкае вайсковае кіраўніцтва дамаглося ад польскага камандавання выканання палажэнняў прэлімінарнага пагаднення аб спыненні на той час дзейнасці ў нейтральнай зоне «антызаконных» вайсковых фарміраванняў.

Пасля прад'яўлення польскага ўльтыматуму асноўная частка Слуцкай брыгады 30 снежня 1920 года перайшла раку Лань і ў раёне вёскі Сіняўка была раззброена, а пасля інтэрніравана. Так завяршылася актыўная фаза Слуцкага антыбальшавіцкага супраціву.

### На падмурку незалежнай беларускай дзяржавы

Пры ўсёй сціпласці вынікаў і сумных наступствах збройнага чыну трэба прызнаць, што гэта быў адзіны з рэдкіх фактаў у нашай найноўшай гісторыі, калі сацыяльныя памкненні шырокіх народных мас злучыліся з ідэяй беларускага вызвольнага руху. Выяўленыя архіўныя дакументы разбураюць старыя «сведчанні» аб тым, што *«сутычак з Чырвонай арміяй не было; ні з аднаго, ні з другога бакоў не было зроблена ніводнага стрэлу»*, і што *«ніякага паўстання ў Слуцку не адбывалася»*. Аднак і цяпер апалагеты савецкай канцэпцыі гісторыі Беларусі сцвярджаюць, што «слуцкая акцыя» была правакацыяй Пілсудскага і польскага ваеннага генеральнага штаба.

Трэба заўважыць, што такую думку падзялялі ў міжваенны час і некаторыя беларускія нацыянальныя дзеячы. Так, орган беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў «Беларуская Крыніца» ў лістападзе 1931 года (№38) пісаў: *«Працію Слуцкага паўстання, як паўстання беларускага народнага і незалежніцкага, часта можна пачуць закід, што яно было арганізавана палякамі для барацьбы з бальшавікамі і агулам для польскіх палітычных мэтаў на беларускіх землях. Вось жа факт пэўнай (дагэтуль нявыясненай) прыналежнасці да гэтай справы польскага генеральнага штаба і польскай палітыкі агулам застаецца фактам. Факт гэтай польскай прыналежнасці да Слуцкага паўстання сцвярджае таксама і тое, што камандаванне паўстанцкае было ў сціслым кантакце з так званай беларускай Найвышэйшай Радай, якая трымалася польскай арыентацыі...»*

### «Польскі след»

На «польскім следзе» ў слуцкіх падзеях варта спыніцца больш падрабязна. Пасля таго, як «крэсы ўсходнія» былі захоплены ў 1919 годзе падчас вайны з Савецкай Расіяй, перад польскім кіраўніцтвам стаяла задача даказаць сусветнай супольнасці, што Беларусь ёсць неад'емнай часткай Польшчы і што мясцовыя жыхары жадаюць жыць у складзе «польскай Рэчы Паспалітай». Так званая «федэралісцкая канцэпцыя» польскага кіраўніка Ю.Пілсудскага не ставіла за мэту стварэнне раўнапраўнай федэрацыі Польшчы, Беларусі, Літвы і Украіны. У інтарэсах польскай дзяржавы Пілсудскі марыў стварыць міждзяржаўны буфер з лаяльных да палякаў сатэлітаў, каб пазбегнуць небяспечнага суседства з Савецкай Расіяй.

Аб «прывержанасці» ідэі федэралізму Ю.Пілсудскі так заявіў свайму паплечніку Л.Васілеўскаму 8 красавіка 1919 года: *«Не хачу быць ні імперыялістам, ні федэралістам, пакуль няма магчымасці казаць пра гэтыя справы больш-менш сур'ёзна... Дзеля таго, што на Божым свеце пачынае, здаецца, перамагаць балбатня пра братэрства людзей і народаў і амерыканскія дактрынкі, ахвотна схіляюся на бок федэралістаў»*.

На акупаванай тэрыторыі Беларусі польскія ўлады імкнуліся ўмацаваць сваю палітычную, эканамічную і культурную прысутнасць, каб прывязаць беларускія тэрыторыі да Польшчы. Разам з акупацыйнай адміністрацыяй дзеля гэтай мэты дзейнічалі і паўграмадскія арганізацыі, якія, дзякуючы шчодрай фінансавай падтрымцы варшаўскага ўрада, праводзілі актыўную ідэалагічную апрацоўку тутэйшых жыхароў. Найбольшай актыўнасцю вызначалася Таварыства стражаў крэсовых (ТСК). Ягонай галоўнай мэтай стала *«абарона зямель на крэсах усходніх, па праву належачых Польшчы»*, адраджэнне тут польскага грамадскага, палітычнага, гаспадарчага і культурнага жыцця. Вянцом чыннасці ТСК на беларускіх землях стала арганізацыя краёвага плебісцыту на пачатку 1920 года, на якім насельніцтва павінна было падтрымаць далучэнне беларускіх тэрыторый да польскай Рэчы Паспалітай.

Але ў Слуцкім павеце польская прапаганда не мела вялікага поспеху, бо тут адсутнічала тая сацыяльная база, на якую «стражы крэсовыя» маглі б абаперціся. На Случчыне антыпольскія настроі мелі даўнія гістарычныя традыцыі, да таго ж гэта рэгіён, дзе пераважала праваслаўе. *«Адсюль наносіліся найбольш балючыя ўдары на Польскую Рэч Паспалітую... Грамадства тут жыве праваслаўна-яўрэйскае, дужа варожае, поўнае помсты і нянавісці да ўсяго польскага»*, – паведамляў на пачатку 1920 года слуцкі агент ТСК.

Непрыняцце беларускім сялянствам пальшчызны ў першую чаргу тлумачыцца тымі сацыяльна-эканамічнымі варункамі, якія скламіся ў рэгіёне. Слуцкім абшарнікам, якія былі пераважна каталіцкага веравызнання і вызнавалі сябе за «палякаў», напярэдадні Першай сусветнай вайны належала да 60% сельскагаспадарчых плошчаў. Тутэйшыя праваслаўныя сяляне былі кроўна зацікаўлены ў ліквідацыі абшарніцкага землеўласніцтва, за «польскаю партыяй» ім ісці не было ніякага рэзону.

Разам з тым «крэсовымі» агентамі адзначалася слабая «польская свядомасць» і сярод тутэйшых шляхціцаў, якія дрэнна валодалі польскай мовай, *«пахаваліся ў засценках і фальварках»* і не праяўлялі аніякай грамадскай ініцыятывы.

У апазіцыі да польскай акупацыі стаялі мясцовыя беларускія нацыянальныя арганізацыі. Іхняй мэтай было пашырэнне сярод тутэйшых жыхароў беларускай нацыянальнай свядомасці, садзейнічанне ўмацаванню эканамічных і культурных падстаў незалежнай беларускай дзяржаўнасці. Першыя беларускія нацыянальныя гурткі на Случчыне паўсталі яшчэ ў канцы XIX стагоддзя. Падчас рэвалюцыйных падзей 1905–1906 гадоў у Слуцкім павеце ўзніклі суполкі Беларускай сацыялістычнай грамады, але з прыходам палітычнай рэакцыі пасля 1907-га беларускае палітычнае жыццё тут заціхае.

### Шалі хісталіся...

Аднаўленне чыннасці беларускіх нацыянальных арганізацый на Случчыне адбылося пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года. У гэты час тут паўстаюць беларускія маладзёжныя і вучнёўскія гурткі: слуцкая «Папараць- кветка», грозаўская «Зарніца», «Кутнёўская навуковая грамада» і іншыя. Значную ролю ў пашырэнні беларускай справы ў павеце адыграў тады Радаслаў Астроўскі, ураджэнец гэтых месцаў, былы выкладчык Мінскага настаўніцкага інстытута, якога Часовы расійскі ўрад прызначыў сваім павятовым камісарам. Яго намаганнямі ў жніўні 1917 года ў Слуцку была створана земская гімназія, навучальная праграма якой уключала выкладанне беларускай мовы і беларусазнаўства. А яшчэ раней, у сакавіку таго ж года, была арганізавана гарадская міліцыя, дзе кіруючыя пасады занялі вядомыя беларускія дзеячы Марк Асвяцімскі, Апанас Анташэўскі і іншыя. Менавіта гэтая паўвайсковая структура, што забяспечвала грамадскі парадак у горадзе, стала асновай Слуцкай беларускай брыгады ў лістападзе 1920 года.

Але, нягледзячы на пэўныя поспехі, беларускі рух не стварыў тады вялікага «поля ўплыву» на тутэйшае сялянства. Чыннасць мясцовых беларускіх гурткоў, якія складаліся пераважна з тутэйшай моладзі, рэдка выходзіла за сцены гэтых арганізацый. Спачатку ўсё абмяжоўвалася правядзеннем культурна-асветных акцый. Большая частка тутэйшай інтэлектуальнай эліты заставалася пад уплывам «заходнерусізму» і негатыўна ставілася да думкі пра самастойнасць Беларусі. Нацыянальна свядомая частка інтэлігенцыі яшчэ не настолькі паверыла ў сваё прызначэнне, каб узяць у свае рукі справу мясцовага самакіравання і вывесці тутэйшага селяніна з-пад чужога ідэалагічнага ўплыву. Уплываў і моцны адміністрацыйны ўхіл у бок «агульнарасійскага патрыятызму» кіраўніцтва павятовага земства, якое трымала ў сваіх руках важныя рычагі эканамічнага і культурнага жыцця вёскі.

Абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі не атрымала тут вялікага рэзанансу. Усё ж ні павятовае земства, якое знаходзілася пад кантролем расійскіх сацыял-рэвалюцыянераў, ні русафільская ліберальная інтэлігенцыя не сталі галоўнымі праціўнікамі беларускага нацыянальнага адраджэння пасля кастрычніка 1917 года. Пад уплывам тагачасных палітычных падзей антыбеларуская сутнасць «старога заходнерусізму» паступова вымывалася ды запаўнялася беларускім нацыянальным зместам.

Слуцкі Беларускі нацыянальны камітэт (БНК), які быў утвораны яшчэ ў 1918 годзе, найбольшую актыўнасць выявіў у часы польскай акупацыі (1919–1920). Скарыстаўшы сваё легальнае становішча, ён скіраваў увагу на развіццё ў павеце беларускага школьніцтва і кааператыўнага руху.

Увесну 1920 года былі зроблены нясмелыя крокі, каб вырваць з-пад польскага кантролю органы мясцовага самакіравання. Але здзейсніць гэта ўдалося толькі напярэдадні збройнага чыну. Акупацыйныя ўлады ў павеце мяняліся, а беларускі селянін намагаўся жыць сваім жыццём. Найперш яго турбавала пытанне аб зямлі. Скасаванне буйнога абшарніцкага землеўласніцтва, перадача зямлі сялянскім гаспадаркам – гэта тая «нацыянальная ідэя», якую падтрымлівала абсалютная большасць тутэйшага сялянства. Тая палітычная сіла, якая абяцала вырашыць зямельнае пытанне на карысць сялянскіх мас, і станавілася дамінуючай у краіне.

Гэтую сітуацыю выдатна скарысталі бальшавікі, якія прыйшлі да ўлады на хвалі папулісцкіх абяцанняў і дзякуючы палітыцы часовага «ўлагоджвання» заможнага і сярэдняга сялянства за кошт абшарніцкай уласнасці. Але калі ў разгар вайны з Польшчай савецкая ўлада пачала прымусовую мабілізацыю ў войска, а харчовымі вайсковымі аддзеламі праводзілася масавая рэквізіцыя хатняй жывёлы, правіянту і фуражу, сяляне ў адказ узяліся за зброю. Яны не жадалі быць «гарматным мясам» у бальшавіцкіх планах сусветнай рэвалюцыі. Гэта быў той момант, калі сацыяльная і нацыянальная складовыя антыбальшавіцкага супраціву злучыліся ў адзінае цэлае.

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ